Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

# Сялянская Праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 20. Вільня, Пятніца, 14-га лістапада 1924 г. Год I.

## З кім ісьці?

Жыцьцё ўсяго сьвету, усіх краёў і народаў так пераблуталася, што падзеі, якія адбываюцца ў аднэй дзяржаве, часта маюць дужа вялікі ўплыў на жыцьцё другіх. Так, нядоўгае нават панаваньне работніцкага ўраду ў Англіі значна зьмяніла міжнародавыя адносіны ў Эўропе, дало Нямеччыне магчымасьць дастаць вялізарную заграчічную пазыку на эканамічную адбудову, рэзка адбілася на адносінах Лігі Народаў да Польшчы і г. д.

Ясна, што йшчэ больш адбіваюцца на жыцьці народаў тыя зьявішчы, якія маюць больш агульны характар, якія адбываюцца аднача́сна ў цэлым радзе дзяржаў. Да гэткіх зьявішчаў трэба залічыць і наступнае.

Выбары ў Англіі паказалі, што стары падзел англійскага грамадзянства на рад партыяў: кансэрватараў, лібэралаў і работнікаў—ператвараецца ў падзел на дзьве: буржуазную і работніцкую. Падзел гэты адпавядае чыста *клясаваму падзелу* англійскага народу. І вось, партыя лібэралаў, якая не стаяла на тым ці іншым клясавым становішчы, утраціла ў Англіі свае ўплывы і саваё значэньне.

У гэтым-жа кірунку разьвіваюцца і ўнутраныя адносіны ў Амэрыцы. І можна ўжо з поўным пераканаяньнем сказаць, што клясавы падзел і клясавая барацьба ў найбліжэйшым часе станецца тэй асноўнай лініяй, па якой пойдзе далейшая гісторыя ўсяго сучаснага сьвету.

Дзьве сілы—буржуазія і пралетарыят — сталі зусім выразна за змаганьня за уладу, за *дыктатуру*. І ўсе тыя грамадзкія групы, якія стаяць як-быццам па-за гэтымі клясамі, павінны так, ці сяк вырашыць для сябе пытаньне: *з кім ісьці?*

У сучасных грамадзянствах ня маюць выразнага клясавага аблічча *інтэлігенцыя* і *сялянства*.

Інтэлігенцыя не прадстаўляе нечага суцэльнага, арганічна аб'яднанага. Яна можа кіравацца ідэямі, якія зусім нават ня зьвязаны з яе інтарэсамі, з яе карысьцяй. І ў барацьбе клясаў нельга спадзявацца, каб інтэлігенцыя ў цэлым станула на адным ці на другім баку: яна дзеліцца на групы, залежна ад ідэалёгіі і пераканаяньняў, і гэтыя групы змагаюцца паміж сабой зусім таксама, як тыя клясы, з каторымі яны зьвязаны ідэйна ці матар'яльна.

Другая справа — сялянства. Сялянства як-быццам зьвязана фармальна з буржуазіяй: яно *мае ўласнасьць—зямлю.* Але-ж на гэтым сувязь яе з буйнымі зямляўласьнікамі і канчаецца. Больш таго: сялянства, нават маючы сваю зямлю (—аб беззямельных і гаварыць няма што!) знаходзіцца ў надта вялікай і для яго цяжкай залежнасьці ад абшарнікаў. Кожны дзень напамінае селяніну аб гэтай залежнасьці ад „свайго пана“. Дый „пан“ з свайго боку глядзіць на сялян, як на сваіх рабоў, якія павінны аддаваць яму свае рабочыя рукі—ці то ў часе палявых работ, ці даючы парабкаў на цэлы год. Зямля для селяніна—ня спосаб паняволіць другіх, а прылада до працы, як варштат шаўца ці іншага рамесьніка, І вялізарную грамаду сялянства злучае ў адну сям'ю *праца рук яго*, каторая аднача́сна зьвязуе яго і з мястовымі работнікамі.

Зусім натуральна, што сялянства ня можа спадзявацца на лепшую будучыну ў саюзе з панамі-абшарнікамі, з буржуазіяй: яно, як самая цёмная частка грамадзянства, будзе заўсёды цярпець вызыск ад больш культурнага панства—ўсё роўна, вясковага, ці мястовага. Ідэалу сялянства: здабыць гэтульі зямлі, каб стацца незалежным ад паноў,—гэтыя самыя паны ніколі самахоць ня зьдзейсьняць! Наадварот: гісторыя „зямельнае рэформы“ ў Польшчы—найлепшы доказ таго, як абшарнікі ўмеюць нават спыніць дзейнасьць выданага ўжо даўно закону, які пазбаўляе іх зямлі!

Ужо з гэтага ясна, што сялянства ня можа йсьці з буржуазіяй у яе барацьбу з работнікамі за ўладу. Больш таго: ня толькі суполны лёс—праца злучае сялянства з работніцкай клясай, але і тое, што работнікі змагаюцца як-раз з тэй сілай, каторая закабаліла сялянства і дае яму выбіцца з паднявольнага палажэньня. Ня толькі беспасрэдня буржуазія ўціскае сялянства: яна, маючы ўладу ў сучасных манархіях і дэмакратычных рэспубліках, умее пералажыць на сялянскія масы галоўны цяжар дзяржаўных падаткаў...

Сялянства, ідучы саматугам, ніколі ня здолее адваяваць уладу ў дзяржаве для сябе. Яно можа зрабіць магутны націск на пануючыя „вярхі“, але ўдзяржаць уладу ў сваіх руках і абняць кіруючыя цэнтры дзяржаўнага жыцьця: месты—яно, ўжо хоць-бы дзеля сваей распыленасьці, ня ў сілах. Аб „паходзе“ вёскі на места можна гаварыць хіба толькі, як аб нейкім мамэнце ў барацьба за ўладу, але „ўцантравацца“ ў месьце яна ня можа дзеля пагрозы прост голаду!

Вёсцы патрэбен саюзьнік *у месьце*. І такім саюзьнікам ня можа быць той, хто проста ці пасярэдня эксплёатуе яго. Ня можа быць саюзьнікам сялянства буржуазія.

Затое можа і запраўды зьяўляецца натуральным саюзьнікам сялянства кляса, якая, як і яно, жыве з працы рук сваіх, якая цярпіць уціск ад тэй-жа сілы, што і сялянства, і так-сама імкнецца да вызваленьня: гэта — *работнікі, пралетарыят.* З ім сялянству— па дарозе!

Гэты натуральны саюз працоўнага сялянства з работнікамі выяўляецца ўсюды. Выявіўся ён і ў Амэрыцы ў часе прэзыдэнцкіх выбараў: дробныя фармэры падавалі галасы за работніцкага кандыдата Ля-Фолетта.

Яшчэ больш натуральным зьяўляецца саюз сялянства з мястовым пралетарыятам у нашым краю, дзе буржуазія, да ўсяго вышэйсказанага, зьяўляецца варожай беларусам сілай і з нацыянальнага пагляду.

Дык выбар для нас хіба будзе зусім ясны: беларускае сялянства ня можа пайсьці з буржуазіяй, а *выключна і толькі з работнікамі.*

У гэтым саюзе—яго будучына!

## Зьнішчэньне Белавежы.

Рабунковая гаспадарка польскага ўраду ў Заходняй Беларусі найбольш ярка выявілася ў справе прадажы англійскай фірме ляснога багацьця Белавежы.Проці рабунковага нішчэньня нашых лясоў паднялі голас пратэсту нават... польскія эндэкі!

Мы падаем тут адрывак з стацьці пад загалоўкам „O rewizję koncesji białowieskiej“, надрукаванай у № 144 „Gaz. Warsz.“.

„Значная часьць Белавежскае пушчы прададзена. Прададзена на нячувана цяжкіх варун ках... Дый шкода, якая вынікае з няўдачнае прадажы, выяўляецца ня толькі ў дачэсных стратах грашмі,якія з часам, дзякуючы працы, могуць быць вернены. Прадажа зроблена на такіх варунках, што можа выклікаць непапраўныя страты, **зьмяншаючыя нацыянальную маемасьць.**

„Пры эксплёатацыі пушчы будуць **сячы лес у пень**, пасьля чаго, з прычыны мяйсцовых варункаў (багатая глеба і множства атмасфэрычных ападаў, што выклікае шыбкае парастаньне травой лесасеку), лес або не адрастае, або губляе свой тып і замяняецца малацэннымі гатункамі (прыкл. бярозай). **Сасну і дуб трэба будзе разводзіць штучна.** З якой скорасьцяй адбываецца ўзнаўленьне лесу, паказуюць гэткія цыфры: ў 1924 годзе адсеяны у-ва ўсей пушчы 314 гэктараў. Астаецца засеяць каля 5.000... Да гэтага трэба дадаць, што кожын год будзе прыбываць ня менш, як паўтара тысячы гэктараў ад англійскае рубкі. Ясна, што ўсяго залясіць пры найвялікшых высілках мы ня здолеем. Гэтак з году ў год абшар пусташы будзе павялічацца.

„Аднак, гэта йшчэ ня ўсё. Штучна гадаваны лес ніколі ня можа раўнавацца з натуральным. Узгадаваць такую сасну-стралу, якая вырастае ў пучшчы, у штучнай культуры абсалютна немагчыма. Калі-б замест рубкі ў пень у пушчы вялася выбарачная рубка, дык можна было-бы ўсьцяж атрымліваць вялізарную масу дрэва, а лес знаходзіўся-бы ў такім стане, што сам-бы аднаўляўся ў сваім уласным тыпе. Мы мелі-бы сталы лес. У спосабе рубкі, а ня ў самым факце прадажы лесу, крыецца **катастрофа „белавежскае канцэсіі“**. У гэтым ёсьць ужо нешта такое, чаго **нічым і ніколі нельга паправіць.** Гэта ёсьць проста **руйнаваньне лесу—нічым не апраўданае і зусім непатрэбнае“.**

Такое варварскае нішчэньне беларускіх лясоў—хіба затым, што яны прадстаўляюць нацыянальную маемасьць беларускага народу,—напамінае таго парабка, які рубаў на дрэве сук, сідзючы на гэным суку...

## Напад асаднікаў на беларускіх паслоў.

**Гэткімі днямі ў Пружаны прыехалі беларускія паслы Тарашкевіч і Ярэміч дзеля пасольскае справаздачы. З прычыны кірмашовага дня народу сабралося вельмі многа. Як толькі пасол Ярэміч пачаў прамаўляць, зьявіўся камандант паліцыі з бандай асаднікаў і заявіў, што староста забараняе паслам прамаўляць. У той-жа мамэнт адзін з асаднікаў стрэліў з рэвальвэру ў паветра, другі схапіўся за бок з крыкам: „мяне забілі“, а трэці падскачыў да п. Ярэміча ззаду і ўдарыў яго па галаве. Абураны народ сунуўся грамадой бараніць паслоў. Тады прыгатаваная загадзя паліцыя кінулася бараніць асаднікаў і разганяць народ. Мітынг быў сарваны.**

## З Сойму.

### Далейшы працяг дыскусіі.

Вельмі цікавую прамову сказаў **пас. Брыль** былы лідэр пястоўцаў, які пасьля адкалоўся ад Вітаса і стварыў уласную групу „Związek Chłopski“, які толькі што злучыўся з „людоўцамі„ п. Домбскага.

Прадстаўнік польскіх сялян перад усім дэманструе прэм'еру і Сойму тое „збожжа“ на засеў, якое за дзяржаўныя грошы з даручэньня ўраду скуплялі розныя „таварыствы“, робячы на гэтых апэрацыях добрыя „гешэфты“.

**Прэм. Грабскі** (ня хоча нават глядзець на гэтае „жыта“) гэтае збожжа купляў ня ўрад, але таварыства.

**Пас. Брыль.** Дык я-ж аб тым і кажу, што ўрад павінен быў сам закупляць збожжа, а не даваць гэткіх „карысных“ канцэсіяў тым „людовым“ палітычным групам, якіх гэтым прэм'ер маніўся „прыхіліць“ на свой бок...

На страніцах пястоўскіх часопісяў можна прачытаць заклікі сялян да ўдзячнасьці п. Вітасу, які ня

толькі выстараўся ад ураду грошаў на гэтае „жыта“, але і **дзяліў** яго так карысна для сваіх выбаршчыкаў. Дык вось, якім парадкам і з якімі мэтамі вядзецца ўрадовая кампанія проці неўраджаю: за народныя грошы ўрад падкупляе соймавы клюб, а гэты — сваіх выбаршчыкаў, але пры гэтым рабуючы і скарб і сялян, падсоўваючы народу нягоднае насеньне, а сабе набіваючы кішані. (Шум і крыкі сярод вітасоўцаў).

У гэтую сэсію павінна нарэшце быць праведзена зямельная рэформа; інакш наш клюб зьменіць **праграму і пачне дамагацца зямлі бяз выкупу**.

Усе меры ўраду дзеля **„супакоеньня“** „Крэсаў“ толькі даліваюць масла ў вагонь: насяленьне, якое калісьці вітала польскае войска (?), цяпер праклінае Польшчу (!).

„На „Крэсы“ трэба йсьці з сэрцам, хлебам і помачай, але не з вынятковым станам“.

Адміністрацыя і паліцыя на „Крэсах“ істнуе толькі дзеля накладаньня караў на сялян. А, калі трэба запраўды знайсьці зладзеяў ці бандытаў, тады паліцыі няма.

Адміністрацыя служыць не дзяржаве, але аднэй клясе (панам), напрыклад, па трэбаваньню аднэй партыі ўрад зьмяніў 14 старостаў, якія не хацелі быць слугамі паноў. Сялянства ў Польшчы цяпер абсалютна ня мае веры ні да ўраду, ні да судоў.

Міністэрства земляробства дэмаралізуе сялянскае жыцьцё, бо служыць толькі аднэй партыі, даючы яе сябрам і арганізацыям канцэсіі... (з пястоўскіх лавак крыкі: „прозьвішчы!“).

**Пас. Брыль**: прозьвішчы знойдзе п. Вітас навокал сябе!

„Міністар асьветы Міклашэўскі папросту не дарос да свайго становішча“!

Дзіўное дамаганьне з боку „Пяста“ і Хіены, каб зьмяніць выбарны закон! Дык-жа ніхто іншы, як пястоўскі „сацыяліст“ праф. Бузэк у паразуменьні з эндэкамі, зьяўляецца аўтарам гэтай „ордынацыі“, якая была апрацавана так, каб канешна забясьпечыць пясту і эндэцыі большасьць у Сойме!.. „Пяст“ напэўна разьлічаў на 150 паслоў! Дык — якія гарантыі, што цяпер зьмена паможа?! Аратар ядавіта сьмяецца з вітасавай крытыкі ўраду. „Пяст“ не бярэ адказнасьці за ўрад, але ня хоча зусім зьмяняць яго міністраў. Дзіва, што ня хоча: бо яны ўсе добра служаць яго партыі.

**Пас. Рэйх** (жыд. клюб) закідае ўраду адсутнасьць усялякай пуцяводнай ідэі і несправядлівасьць у адносінах да нацыянальных меншасьцяў, а перад усім да жыдоў. Дзеля таго жыдоўскі клюб ня мае даверыя да ўраду Грабскага.

**Пас. Попель** („клюб работнікаў нацыяналістаў“) галоўным грахом ураду лічыць тое, што ён паддаўся дыктатуры абшарнікаў і дзеля гэтага цазволіў на вываз збожжа з краю.

У справе безрабоцьця ўрад ня мае пляну барацьбы, ці правільней, праводзе плян „Левіатана“ аб‘яднанага буйнага прамысловага капіталу, пакорным слугой якога зьяўляецца мін. Кедронь.

Вельмі цікава: прамоўца сьцьвярджае, што Горны Сьлёнск, ня гледзячы на 3-летнюю дзяржаўную еднасьць з Польшчай, **ані гаспадарча, ані нават нацыянальна ня злучаецца з Польшай... „Горны Сьлёнск стаўся краем усялякіх магчымасьцяў і крыніцай нязьлічаных клапотаў для Польшчы**. (Ці-ж ня тую самую „памылку Рады Лігі“, аб якой казаў у Жэневе Мак-Дональд, сьцьвярджае кожны раз, калі ня той, дык іншы пасол у Сойме ў бюджэтнай дыскусіі?).

Аратар сьцьвярджае, што вугальныя і іншыя прамыслоўцы на падатках ашукалі скарб на 20 мільёнаў злотых. Фальшывыя кнігі вялі нават тыя прадпрыемствы, дзе былі кантралёрамі прадстаўнікі ўраду п. п. Бэніс і пас. Корфанты, якія, добра ведаючы ўсе сэкрэты „прадукцыі“, аднакжа маўчалі аб надужыцьцях, пакуль яны ня выкрыліся.

Канчае аратар трэбаваньнем роспуску Сойму і новых выбараў.

### Самаабарона п. Карфантага і скандал.

Па за чаргой аратараў атрымлівае слова п. Карфанты дзеля тлумачэньняў у асабістай справе—з прычыны закідаў п. Попель. П. Корфанты тлумачыць вельмі нясkладна, што якраз ён выкрыў усе надужыцьці, але **пас. Гэру** (калега Попеля) вельмі дасьціпна і трафна кароткімі рэплікамі зьбівае і высьмейвае яго доказы.

Другі калега Попеля па клюбу, **Хондзыньскі**, заяўляе, што іх клюб пакуль што не абвінавачывае Карфантага, але трэбуе толькі апублікаваньня дакумэнтаў, якія прадстаўлены ўраду.

Калі Карфанты, скончыўшы прамову, зыходзіць з трыбуны, з лавак „нац.-работнікаў“ нясуцца крыкі: „ідэаліст, хадзячая нявіннасьць“!

**Пас. Карфанты**. „Я яшчэ пакажу вам!“

**Пас. Гэрц**. Мы нічога не баімося!

**Пас. Карфанты**. Я таксама маю адвагу!

**Пас. Гэрц**—падкупляць!

**Пас. Карфанты**: І пан браў ад мяне грошы.

**Пас. Гэрц**. Як сьмееш гэта казаць! Брэшаш! Ты яшчэ адбрэшашся за гэта ў мяне!

Карфантага ў самы час засланяюць яго калегі ад замаху з боку Гэрца.

**Пас. Карфанты**, бляды, як сьмерць, крычыць здалёка калегам Гэрца: „вы бралі грошы ад французаў“.

**Пас. Гэрц** падыходзіць ізноў да Карфантага... Маршалак умешываецца, каб спыніць скандал.

З лявіцы крычаць, што гэта Карфанты браў грошы ад немцаў, ад Эрцбэргера (нямец. міністар).

Ня толькі ад немцаў, але ад жыдоў!..

Маршалак нарэшце спускае заслону.

### Ураду выражана даверые.

У канцы дыскусіі галасавалася прапазіцыя паслоў Рагулі і Васыньчука аб выражэньні недаверыя ўраду п. Грабскага. Паіменным галасаваньнем прапазіцыя адкінута—большасьцяй 237, проці 52.

Хто як галасаваў і хто ўстрымаўся, пакуль што нам ня ведама.

### Новая партыя.

„Dz. Wil.“ падае, што былыя вызваленцы п. п. Ваяводзкі, Бон, Шапель і Галавач злучыліся з выйшаўшымі раней з „Вызваленя“ пасламі Балінам і Шакуном і ствараюць новую „радыкальную“ групу.

## Сэнат.

### Далейшы працяг дыскусіі.

Сэн. **Бузэк** (Пяст) выхваляе загранічную палітыку Скшыньскага і крытыкуе гаспадарчую палітыку Грабскага.

Сэн. **Познэр** (ППС) таксама гавора кamплімэнты міністру загран. спраў, але топіць унутраную палітыку ўраду —перад усім у галіне работніцкага пытаньня. Аратар вельмі трафна сьцьвярджае ўнутраную-арганічную ілжывасьць палітыкі ўраду: ўрачыста абвешчана „нятыкальнасьць сацыяльных заваяваньняў у Польшчы“ (8-гадзінны дзень працы і г. д.), але яна тут-жа пагвалчана ўрадам; прынята Соймам „Ustawa“ аб сацыяльнай ахове і—не выпаўняецца, бо няма на яе грошаў (на падарункі абшарнікам і прамысловым акулам грошы ў п. Грабскага заўсёды ёсьць!); абяцана ў пару гадоў зьніштожыць няграматнасьць у Польшчы, і—вось цяпер у аднэй конгрэсоўцы („Царстве Польскім“) больш за **паўмільёна** дзяцей ня вучыцца зусім, бо школаў няма! (ашчаднасьць міністра „асьветы“ Міклашэвскага!..) У самай Варшаве ня вучыцца больш 40.000 дзяцей!.. На гэта, — на школы для дзяцей простага народу — няма грошаў.

Вастрожная справа ў Польшчы зрабілася „справай міжнародавай“...

Сэн. **Возьніцкі** (злучаныя людоўцы—Домбскага) кажа, што ўрадоўцы Польскае дзяржавы працуюць паўдарма... Дзеля гэтага, хто можа—найлепшыя людзі—ўцякаюць на прыватную службу.

Міністар асьветы за шмат „oszczędza“, пры гэтым вельмі спраўна „глытае“ ўсе закіды, якія яму робяць. Гэткага міністра трэба зьмяніць. Аратар сьцьвярджае, што дзеля санацыі скарбу прынесены ў ахвяру парлямэнтарызм у Польшчы.

Сэн. **Кшыжановскі** (беспарт.) закідае дасканаламу наагул міністру Скшыньскаму толькі адносіны польска-літоўскія... — Бяз Нёмна і Клайпэды нашы „Крэсы“ задыхаюцца і руйнуюцца гаспадарча.

Аратар вельмі шкадуе дэлегата Романа, чакае яго на становішчы віцэ-міністра і крытыкуе генаральскія „жонды“ на „Крэсах“. Сьледзтва ў справе гібелі „бранявікоў“ не знайшло вінаватых... Толькі на памінках па забітых афіцэры перапіліся да быдлячага стану...

„Адбудова Крэсаў“—адна мана. Лесу сялянам не даюць; крэдыту дробны хлебароб-селянін ня мае зусім... Адзінае, што ўлада зрабіла для „Крэсаў“, апрача падараваньня генералаў, гэта ператварэньне „дэлегатуры“ ў ваяводзтва. Гэта — **заместа тэй аўтаноміі**, без якой ня будзе парадку ў Краю...

Сэн. **Барташэвіч** (эндэк) крытыкуе міністра Скшыньскага—за **здраду** Польшчы на карысьць заграніцы... Польшча павінна была „моцарствам“ (вялікай дзяржавай). Дзеля гэтага ўрад павінен быць „моцным“, вясьці палітыку „моцнай рукі“. Тады будзе і крэдыт заграніцай. Калі гэтай „моцнай руцэ“ на „Крэсах“ перашкаджаюць Канстытуцыя ці які закон, дык іх можна зьмяніць ці скасаваць...

Сэн. **Карпінскі** (украін.), як-бы адказываючы эндэку, кажа, што крэдыт маральны ці іншы ня можна штучна вытварыць заграніцай, — бо заграніцу ня можна ашукаць, скрываючы запраўдны стан Польшчы ўнутры... Яго трэба зьмяніць, а ўрад гэтага ня робіць. Дык украінцы выражаюць недаверые ўраду.

Сэн. **Гасбах** (немец) сьцьвярджае вельмі важны факт, ілюструючы словы п. Попеля: **каля 80% жалезнай і 50% вугальнай прамысловасьці Горнага Сьлёнску ў хуткім часе стане!** Горны Сьлёнск мае быць **зьніштожаны за 3 гады польскай гаспадаркі!.. Цэнтр гэты можа адратаваць ад гібелі толькі загранічная пазычка**,—ці тая дзяржава, якая карыстаецца замежным крэдытам... Сьвет мае шмат грошаў і сам шукае рынкаў для сваіх капіталаў, як гэта яскрава відаць на прыкладзе... нямецкай пазыкі, у якой прыняла ўчасьце **нават Францыя**... Але дзеля крэдыту трэба, каб дзяржава мела даверые заграніцы... (**Крэдыт** якраз знача пафранцуску — даверые!..) Крэдыту ня мае для Польшчы... **нават Францыя**...

Прычына гэтага (мо‘ адна з прычын?) дрэнная ўнутраная палітыка польскага ўраду.

Сэн. **Вурцэль** (жыд) скардзіцца на ўціск жыдоў у Польшчы.

**Пішыце ў газэту аб усім, што ў вас дзеецца: аб гмінных парадках, аб адносінах начальства, аб школах і навуцы, дый аб усякіх выпадках у жыцьці вашае ваколіцы. Пішыце коратка, але поўна і ясна, паказываючы акуратна: што, дзе, калі і кім зроблена прозьвішчы і адрасы пакрыўджаных і крыўдзіцеляў. Канешне падпісывайце і свае імя—толькі для ведама Рэдакцыі!**

## Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Плады асадніцкае палітыкі ў п. прэм‘ера.

У Варшаву прыехала дэлегацыя ад зьезду „Таварыства Абароны Крэсаў“ і польскіх арганізацыяў на Валыншчыне з старшынёй саюзу вайсковых асаднікаў, ротм. Спыхальскім.

Дэлегацыя разам з эндэцкім паслом Бэрэзоўскім была прынята прэм. Грабскім, якому вылажыла адчайны стан польскага элемэнту на „Крэсах“, падкрэсьліваючы канешнасьць увядзеньня тамака вынятковага стану і павялічэньня войска.

Прэм‘ер адказаў, што даў ужо вялікія цывільныя і ваенныя паўнамоцтвы ваяводам — (без упаважненьня Сойму?!), дадаўшы, што, паводле яго пагляду, трэба будзе ў неспакойных паветах увясьці нават ваеннае палажэньне...

Цікавыя весткі аб палажэньні на „Крэсах“ дадае карэспандэнт „Dz. Wileńsk.“:

„У размовах дэлегаты расказываюць страшэнныя рэчы аб адносінах на „Крэсах“. У прэсу пападае ледзь дробная частка вестак аб нападах... Нападаюць ня толькі на двары, але і на мястэчкі і станцыі чыгункі. Адміністрацыя выяўляе поўнае бязсільле, а войска і паліцыя ня могуць выпаўняць сваіх заданьняў, бо іх зьвязываюць бюракратычныя „przepisy“ (чытай: законы!).

Асаднікі заявілі, што, калі ўрад не пачне энэргічных крокаў, дык яны вышлюць сваі сем‘і назад у глыб Польшчы, а самі возьмуцца за аружжа...

„Рэзультаты такога кроку могуць быць в. цяжкія, але трудна дзівіцца людзям, якія праз цэлыя месяцы жывуць пад пагрозай утраты маемасьці і жыцьця“,—канчае газэта...

Трудна дзівіцца—абедзьвюм старонам...

Можна толькі шчыра падзівіцца розуму тых „палітыкаў, якія паставілі наагул людзей на „Крэсах“ у гэткае палажэньне!

### Да рэканструкцыі габінэту.

Газэты пішуць, што ад серады распачнуцца ўжо запраўды... размовы п. прэм‘ера Грабскага з п. Прэзыдэнтам, пасьля з маршалкам Сойму, а пасьля з асобнымі Клюбамі Сойму—ў справе пераменаў у складзе ўраду...

## Напады.

### Бандыты ў Слуцку.

З Варшавы пішуць: „Слуцк спалены захапіўшымі яго паўстанцамі. Шмат камуністаў забіта“ (?)

### Новая банда.

З Пінску наказуюць, што ў Піншчыне паявілася новая банда ў складзе 19 душ, узброеных стрэльбамі і гранатамі.

Выслана войска.

### Напад бандытаў.

У ноч на 9 лістапада на шляху Падбродзьдзе-Нова-Сьвянцяны 3 бандыты, узброеныя стрэльбамі, напалі на праяжджаўшага гандляра Матука, адабралі 3 скрыні з таварамі і ўцяклі.

## Заграніцай.

### Нота літоўскага ўраду.

Міністар загран. спраў Літвы, Чарнэцкіс, выслаў п. Эрыо ноту — ў адказ на ноту Пуанкарэ з 2.VII г. г. — у справе завязаньня нармальных адносінаў Літвы з Польшчай.

Нота перад усім сьцьвярджае, што, пакуль Літва не пагодзіцца з Польшчай у справе граніцы, гэта значыць: пакуль сувэрэнныя правы Літвы на Віленшчыну ня будуць зьдзейсьнены, дык ня можа быць і гутаркі аб нармальных адносінах з Польшчай. Справа граніцы ня можа быць вырашана бяз учасьця Літвы. Дзеля гэтага літоўскі міністар прапануе склікаць канфэрэнцыю дзяржаў Антанты, Літвы і Польшчы з учасьцем іншых дзяржаў, беспасярэдна заінтэрасаваных у гэтай справе. Час і мейсца Літва прапануе назначыць дзяржавам Антанты.

### Прамова Эрыо.

У апошняй прамове прэм‘ер Эрыо заявіў, што Францыя не магла надалей ігнараваць вялікі расейскі народ, свайго быўшага саюзьніка, незалежна ад таго, які ў яго ўрад. Таксама францускі народ хоча жыць у згодзе з нямецкім—на агульную карысьць справы цывілізацыі.

Барацьба ўраду з фанатызмам ксяндзоў ня ёсьць зусім барацьбой з свабодай сумленьня.

У канцы прамовы прэм‘ер рэзка крытыкаваў тактыку апазіцыі і яе правадыра Мільерана (былага прэзыдэнта, сьцінутага сацыялістамі).

### Вінавайцы вайны.

„Rzeczpospolita“ піша, што вядомы францускі пісьменьнік Маргерыт публічна заявіў, што вінавайцамі сусьветнае вайны зьяўляюцца ня немцы, а Пуанкарэ з Ізвольскім.

Газэта „L'Oeuvre“, якая стаіць блізка да прэм‘-

ера Эрыо, адзначае з пашанай тую адвагу, якую выявіў сваім выступленьнем выдатны француcкі пісьменьнік.

### Аўстрыйскія чыгуншчыкі звалілі ўрад.

Агульная забастоўка чыгуншчыкаў выклікала адстаўку ўраду Зэйпля.

Увесь чыгункавы рух спынены, апрача цягнікоў, якія вязуць правіянт.

### Фашысты ў Англіі.

У зьвязку з выбарнай перамогай „правіцы", у Англіі паднялі галаву „фашысты" — пачаўшы з вялікай дэманстрацыі проці прызнаньня СССР.

### Мусоліні — за дыктатуру.

У размове з карэспандэнтам амэрыканскай газэты Мусоліні выказаўся за скасаваньне парляманту і — дыктатуру...

### Кулідж і ССРР.

Як пішуць францускія газэты, Кулідж ня зьменіць сваіх адносінаў да ССРР, пакуль радавы ўрад ня дасьць паважных гарантыяў аховы інтарэсаў амэрыканскіх грамадзян.

### Салідарнасьць магамэтан.

Багатыя магамэтане Індыі адкрылі падпіску на пазыку для Марокскіх кабілаў Рыфа, якія вядуць барацьбу пад правадырствам Абдул-Керыма— за вызваленьне з гішпанскай няволі.

## Аб чым пішуць.

### Эндэкі раскрываюць карты.

Эндэкі ўжо даўно вядуць укрытую кампанію за ўвядзеньне ў Польшчы *каралеўскае ўлады.* Ведама, называючы сябе „нацыянал-дэмакратамі" („н.-д." — адгэтуль слова „эндэк"), яны саромяцца адкрыта гаварыць аб сваім манархізьме і стараюцца дабіцца для прэзыдэнта рэспублікі такіх правоў, каб ён праўды меў каралеўскую ўладу ў гэтай асаблівай „рэспубліцы".

Але часамі эндэкі ня ўмеюць удзяржаць язык за зубамі і прагаварываюцца. Гэтак прагаварылася надовячы эндэцкая „Gazeta Warszawska" (ў № 144 з 6. XI. 1924), пішучы ў перадавіцы:

> „Польскі народ мусіць зрабіць выбар: або ён **вернецца да манархічнага ладу**, або ўвядзе ў сваю канстытуцыю і выбарны закон такія перамены, якія дадуць магчымасьць стварыць праз выбары ў законадаўчых установах выразную большасьць (—ведама, польскую! — *Рэд.*), каторая здолела-бы сфармаваць сільны і трывалы ўрад".

Вось, якое сьмеласьці набраліся эндэкі! Не дарма-ж яны завялі ў школах культ манархаў—нароўні з культам Маці Божае і сьвятых!

А мо'—для сучаснай Польшчы—гэта запраўды было-б добра: цяпер усе наракаюць, але ня бачаць *рэальнае асобы*, якая іх цісьне, бо-ж гэтым займаецца сама дзяржава. Калі-ж будзе кароль, дык увесь гнеў народу знойдзе лёгкі выхад: ён пакіруецца на барацьбу з каралём і мо' ўрэшце асьвяжыць затхлую атмасфэру „дэмакратычнае рэспублікі".....

### Гнеў—благі райчы!

Віленская літоўская газэтка „Życie Ludu", друкаваная папольску, абідзелася на нас дужа крэпка за тоя, што ў стацьцях аб віленскім пытаньні мы выявілі плады *дурное* палітыкі літоўскага ўраду (і, відаць, літоўскага грамадзянства!), які хоча мець Вільню, але... *без беларусаў*! Гэтая палітыка давяла да таго, што беларусы страцілі веру ў *карыснасьць* супрацоўніцтва з літвінамі і пачалі гаварыць аб Вільні для Беларусі.., *без літвіноў*! Гэтак, замест дружбы і брацкіх адносінаў, пачаліся між беларусамі і літвінамі непаразуменьні, якія давялі да поўнага разрыву на ковенскім грунце.

Сьцверджаньне гэтага факту настолькі абурыла віленскіх літвіноў з рэдакцыі „Życie Ludu", што яны зрабілі на нашу часопісь паскудны *данос.* Ведаючы, што Польшча, як агня, баіцца ўсяго, што можна падвясьці пад „бальшавізм", „Życie Ludu" піша ў стацьці „Łabędź, szczupak i rak" гэтак:

> „Сялянская Праўда" ў раньняй маладасьці сваей—дзеля тактычных матываў—выразна станула пад чырвоным камуністычным штандарам.

Зусім так піша і... „Грамадзкі Голас" — свайго роду экспозытура 5 F.

Але 5 F хіба верыць у тое, што кажа аб нас. А літоўская газэта... у наш камунізм ня верыць!

> Што датычыцца нас, — піша „Życie Ludu",—дык мы ня верым у праўдзівасьць камуністычных перакананьняў рэдакцыі „Сялянскай Праўды".

Фэ, паночкі, што за брудны спосаб газэтнае палемікі вы завялі! Няўжо-ж маральная зараза, якая йдзе ад вядомай „беларускай" шулерні, дайшла і да братняга нам літоўскага народу? Дый як можна адносіны між народамі стаўляць у залежнасьць ад... газэтнае крытыкі іх палітыкі?!

Мы ведаем, што віленскае пытаньне — гэта самае балючае пытаньне для літоўскае нацыянальнае гордасьці. Але, замест паддавацца гневу, трэба было вам лепш прыпомніць сабе ўсю гісторыю адносінаў літоўскага ўраду да беларусаў, прыпомніць дзеяльнасьць „кума-пажарнага" Сямашкі на становішчы міністра беларускіх спраў, дзеяльнасьць „тоже-белоруссов" Боевых, Корчынскіх, Разумовічаў і інш.—і.... пакіраваць свой гнеў на аўтараў *дурное палітыкі*! **А—віч.**

## ХРОНІКА.

**Абдураньне польскага грамадзянства.** У „Gaz. Warsz." нейкі „Jan Maj", друкуючы свае карэспандэнцыі з „Крэсаў", пазваляе сабе баламуціць сваё-ж польскае грамадзянства living рознымі байкамі. Гэтак, паміж іншым, ён апісвае быццам-то істнуючую ў **Сьвянцянах беларускую сярэднюю школу**, якой на дзеле ніколі ня было і, на жаль, **няма**.

Гэта напамінае баламутныя весткі, пусканыя — відаць, з афіцыяльных крыніц — у віленскіх газэтах, быццам беларуская гімназія ў Вільні атрымала правы ўрадовае гімназіі, хаця ўлада і ня думае здаволіць гэтае законнае дамаганьне беларусаў.

Ня дзіва, што, начытаўшыся такіх баек, шмат лёгкаверных палякоў там — у Польшчы — шчыра верыць, што нам тут зусім ня кепска жывецца, толькі бунтуюць беларусаў... бальшавікі!

**„Чырвоны Сьцяг".** У рэдакцыю нашай газэты прысланы гэтымі днямі экзэмпляр узноўленае камуністычнае газэты **„Чырвоны Сьцяг"** у беларускай мове. Газэта зьяўляецца органам Камуністычнае Партыі Заходняе Беларусі.

**Максім Гарэцкі.** „Виленское Утро" піша, быццам вядомы беларускі пісьменьнік М. Гарэцкі падаў польскім уладам прашэньне аб пазваленьні яму вярнуцца ў Вільню.

Трэба думаць, што гэтая вестка — чыста дэфэнзыўнага паходжаньня, бо-ж Гарэцкі затым і выехаў у Радавую Беларусь, што польская ўлада не дала яму права вучыць у беларускай гімназіі і гэтак засудзіла на галадоўку. У Радавай Беларусі Гарэцкі мае працу заробак.

**Водгукі царкоўнае барацьбы ў Польшчы.** Як нас паведамляюць, рэзалюцыя патрыарха Ціхана аб нагародзе архіяп. Элеўферыя даслоўна такая:

„4 кастрычніка 1924 г. Найасьвячэньшы Элеўферы, архіяпіскап Літоўскі і Віленскі, нагараджаецца брыльянтавым крыжам на клобук—за вернае служэньне сьв. праваслаўнай царкве і цьвёрдую абарону яе канонаў„.

**Тэлеграмы пабеларуску.** У адказ на інтэрпэляцыю Беларускага Пасольскага Клюбу ў справе адмовы ўрадоўцамі на тэлеграфе прыймаць тэлеграмы, пісаныя пабеларуску, міністар гандлю і прамысловасьці, паразумеўшыся з міністрам унутраных спраў, прыслаў на рукі маршалка Сойму пісьмо, у якім тлумачыцца, што **няма ніякае забароны прыймаць беларускія тэлеграмы**, абы толькі яны былі напісаны **лацінскімі літэрамі**. Урадоўца, які адмовіўся прыняць беларускую тэлеграму, улада пацягнула да адказнасьці. Адначасна разаслана інструкцыя да паштова-тэлеграфных установ, каб яны прыймалі тэлеграмы ў беларускай мове, напісаныя лацінікай.

**У справе арыштаў.** Міністар справядлівасьці разаслаў усім пракурорам цыркуляр, у якім адзначае лішняе перапаўненьне вастрогаў асобамі, арыштаванымі да разгляду іх спраў у судзе. Міністар просіць, каб пракуроры дапускалі гэткі арышт толькі **ў неабходных выпадках** і **„сьцісла ў межах, прадбачаных законам"**.

Нарэшце! Бо, значыць, як гэта сцьвярджае „сам" міністар, нашы вастрогі перапоўнены людзьмі, арыштаванымі без „канешнае патрэбы" і нясьцісла ў межах, прадбачаных законам"!

Трэба было-б яшчэ разаслаць да... ўсіх паліцэйскіх пастарункаў, агэнтаў дэфэнзывы і вайсковых каманд, раскватэраваных у беларускіх вёсках!

Цікава адзначыць **матыў** міністэрскага загаду: ён загадывае „сьцісла" трымацца закону затым, што... ў вастрогах **няма ўжо мейсца!** А каб было **„даволі"** мейсца, дык ці тады „сьцісласьць" гэная ня была-б ад пракурораў вымагана?!

**Падаткавыя палёгкі.** Міністэрства скарбу загадала сваім інспэктаром улажыць сьпіскі **маназямельных сялян, дробных рамесьнікаў і дробных гандляроў**, якія павінны быць **зводьнены ад падаходнага** падатку („dochodowy").

Начальнікі падатковых урадаў і скарбовыя інспэктары ўпаўнамочаны раскладаць на часьці ці адсрочываць выплату **падаходнага** падатку асобам, якія знаходзяцца ў цяжкім матар'яльным палажэньні, але не далей, як да 20 сьнежня с. г.

У справе падатку **ад маемасьці** („majątkowy") міністэрства загадала скарбовым палатам („izbom skarbowym") разглядаць просьбы аб адсрочцы для **зьнішчаных вайной гаспадарак** з асаблівай уважлівасьцяй. Калі просяць аб адсрочку больш, як на 3 месяцы, просьбы ўлада павінна ўраз-жа адсылаць у міністэрства, а спаганяньне падатку (экзэкуцыя) **спыняецца** да адказу на просьбу.

Спажывецкія **каапэратывы звальняюцца** ад падатку ад маемасьці. Калі-ж яны яго ўжо заплацілі, дык маюць права атрымаць назад, падаўшы аб гэтым просьбу.

## Прат. Міхал Галенкевіч

Любоў да Бацькаўшчыны найлепш пазнаецца ў патрэбе.

Калі — ў 1915 годзе — перад наступленьнем нямецкіх войск на Вільню ўсялякія „апякуны" нашага народу без аглядкі ўцякалі на ўсход, на месцы асталіся толькі лічаныя адзінкі спасярод краёвае інтэлігенцыі. Паміж іншым, уцякло і ўсё праваслаўнае духавенства, і на ўвесь абшар нямецкае акупацыі 1915 году асталося ня больш 3 — 4 праваслаўных сьвяшчэньнікаў.

Пасярод іх быў і **прат. Міхал Галенкевіч**. Як сын беларускае вёскі (родам з Бельшчыны), ня шукаючы ў расейскай улады дастаенстваў і наград, ён астаўся ў Вільні, каб працаваць сярод свайго народу, ня гледзячы на ўсе „нямецкія страхі". Астаўся зусім адзін, бо ўся яго сям'я выехала таксама на ўсход. І, запраўды, ён знайшоў для сябе вялікае поле да працы ў радох **беларускіх** грамадзкіх працаўнікоў.

Ад самага пачатку акупацыі прат. Галенкевіч прыймаў учасьце ў **дабрачыннай** працы Беларускага Камітэту помачы пацярпеўшым ад вайны, а што йшчэ важней — у яго **школьнай** дзеяльнасьці: арганізацыі беларускіх школ і курсаў. З царкоўнага амвону ён сьмела клікаў наш народ гуртавацца пад нацыянальным беларускім сьцягам, ня гледзячы на варожыя выступленьні проці яго за гэта з боку „маскоўскае астачы" на віленскім бруку.

А. Міхал далучаецца і да **палітычнае** працы беларускага грамадзянства. У студні 1918 году ён выступае на Беларускай Канфэрэнцыі ў Вільні з гарачай, высока-патрыятычнай прамовай, у якой заклікае дэлегатаў з вёскі крэпка дзяржацца беларушчыны і змагацца за зьдзейсьненьне беларускага нацыянальнага ідэалу: незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі.

Калі-ж — пасьля пашырэньня нямецкае акупацыі ў тым-жа 1918 годзе далей на ўсход—сталася магчымым зьвязацца з зафрантовымі беларусамі, прат. Галенкевіч піша да сабранага на зьезд у Дзісьне праваслаўнага духавенства віленскае эпархіі пісьмо, заклікаючы яго йсьці на служэньне беларускаму народу пад беларускім нацыянальным сьцягам, уводзячы ў царкву беларускую мову, закладаючы беларускія школы і г. д.

Цяжкае жыцьцё над нямецкай акупацыяй, нялічаныя прыкрасьці з боку маскоўскіх элемэнтаў, варожых да ідэі нацыяналізацыі на Беларусі праваслаўнае царквы, урэшце адзіноцтва — ўсё гэта падкапала сілы гэтага слабога здароўем, але крэпкага духам старца. У апошнія гады, хаця сям'я і вярнулася да яго, ён ужо зусім занядужаў і ніякага ўчасьця ў грамадзкім жыцьці ня мог прыймаць. Памер на 73 годзе жыцьця.

У чацьвер, 13 лістапада, адбыліся пахароны прат. Галенкевіча, у якіх прыняло гарачае ўчасьце віленскае беларускае грамадзянства, каб выказаць сваю пашану памяці гэтага бадай ці не апошняга прадстаўніка старога пакаленьня праваслаўных сьвяшчэньнікаў, так рэдка астаўшыхся вернымі свайму народу.

**А. Л.**

**Увазе сялян.** Часта здараецца, што пры спагоне падаткаў за **кожын** прыход экзэкутара налічаюць па 5% ад неаплачанае сумы. Дзеля гэтага міністэрства скарбу выясьняе, што налічэньне 5% за кошты спагону абыймае ўсе чыннасьці экзэкутара, незалежна ад таго, сколькі разоў ён прыходзіў за грашыма.

**Плата за загранічныя пашпарты** (звычайныя паменшана з 500 зл. да 100 зл. Гандлёныя і льготныя аплачываюцца і надалей па 25 і 20 злотых.

**Чатыры гадзіны пад зямлёй!** „Słowo" піша: 10-га гэтага месяца пры фортыфікацыйных работах на Росе (у Вільні) быў засыпаны зямлёй работнік Фэлікс Давэйка, 48 г. Цераз 4 гадзіны бедака адкапалі з зламаным хрыбтом.

**Ваўкі.** У Дзісьненскім павеце па вёсках паявіліся ваўкі, якія нападаюць і рэжуць авец, сьвіней, нават каней.

# Карэспандэнцыі.

## Падробнасьці высылкі архім. Ціхана.

(*Жыровіцы, Слонімск. пав.*).

Па весткам, прысланым нам з Жыровіц, „вываз“ адтуль архімандрыта Ціхана адбыўся пры гэткіх абставінах.

15-га кастрычніка, а гадзіне 6-й увечары зьявіўся ў Жыровіцы слонімскі староста Карказовіч з вялікімі атрадамі коннай і пешай, яўнай і тайнай паліцыі. Паліцыя заняла ўсе Жыровіцы, манастыр, сад пры ім, усе ўваходы і выхады, не дазваляючы нікому нават перайсьці з хаты ў хату. Таксама паліцыяй заняты былі і суседнія вёскі. Але мусіць і гэтакай паліцыйнай сілы здавалася мала, бо яшчэ прыведзена была на помач да яе і Жыровіцкая сельска-гаспадарская школа. Сам пан Карказовіч пайшоў да келіі арх. Ціхана, які ў гэты час, пасьля вячэрняй службы, навучаў праваслаўных дзяцей Закону Божаму (бо ў польскіх школах праваслаўная рэлігія не выкладаецца), і запрапанаваў яму, каб ён зараз-жа ехаў з ім у Слонім. Ня даўшы захапіць з сабой нават самых патрэбных рэчаў, арх. Ціхана пасадзілі ў аўтамабіль і павязьлі ў Слонім (па ўсей дарозе да Слоніма стаяла конная паліцыя), адтуль у Баранавічы, з Баранавіч у Варшаву, адтуль на нямецкую граніцу, дзе і „выкінулі“ яго, даўшы на дарогу пашпарт і 200 злотых.

У час вывазу архім. Ціхана, калі народ, ня глядзячы на паліцыю і вучняў рэальнай школы, стараўся праціскацца да свайго любімага пастыра, каб дастаць ад яго астатняе благаславенства, дужа народу было пабіта паліцыяй, а больш за ўсё учнямі школы, **якімі кіраваў ігумен Ісідар** (дастойны **наместнік** свайго дастойнага архіпастыра Аляксея).

Больш за ўсё пацярпелі кабеты, а з іх крэпка пабіты былі: Юлія Сегень, Тэкля Філенчык, Ганна Гузік і др. Яшчэ перад гэтым была крэпка пабіта харунжым Каралём Каладзянам Анастасія Петрашка за тое, што пратэставала проці паступкаў аднаго паліцэйскага, які наўмысьля езьдзіў па пляцу сярод укленчыўшага дзеля малітвы перад царквой народу.

Армім. Ціхан знаходзіцца цяпер у Бэрліне, дзе зьбіраецца чытаць лекцыю аб палажэньні прав. царквы ў Польшы.

**Вяч.**

## Забойства „амэрыканца“.

(*З в. Сыманы, Кабыльніцк. гм., Сьвянцянск. пав.*).

10 кастрычніка, адбыўся напад бандытаў на вёску Сыманы. Напад гэты няправільна апісаны ў 8-м нумары „Сялянскай Праўды“.

Сталася гэта вось як.

Ноччу, калі быў толькі самы сон, у хату селяніна Лапціка (які перад вайной быў езьдзіў у Амэрыку) ўвайшлі бандыты. Лапцік у гэту часіну моцна спаў. Толькі адна жанчына ня спала, каторая неяк заначавала ў Лапціка, а пасярод вочы яна выйшла ў прывян, і ей здалося, што хтось застукаў у прыўне. Увайшоўшы ў хату, яна пачала будзіць Лапціка, але не пасьпела яна сказаць: „Язэп, ці ты сьпіш? Як быццам штось стукае ў прыўне“, — калі дзьверы адчыніліся і ў хату ўляцелі асаднікі, каторыя раптам кінуліся на Язэпа. Забіўшы Язэпа, бандыты пачалі пытацца грошай. Жанчына, каторая начавала ў гэтай хаце, была зьвязана вяроўкай, а жонку Язэпаву пачалі катаваць і дапытываць даляраў. Спачатку пачалі біць, потым прыдумалі другую кару. Кара вось якая была. Узялі аблілі газай, потым запалілі сьвечку і сталі запаліваць газу, каторай была абліта яе вопратка. Жонка гэтай мукі перанясьці не магла і сказала, што грошы знаходзяцца ў скрыні. Знайшоўшы грошы, (каля дзьвух тысяч даляраў), падзялілі іх, а потым на выходзе хацелі ўсіх пастраляць, але паміж іх знайшоўся „добры“ бандыт, каторы сказаў: „Зьвязаць!“ Так было і зроблена, як сказаў апошні асаднік. Перавязалі ўсіх вяроўкамі, а самі пайшлі дамоў.

Але-ж шыла ў мяшку не схаваеш. Скора даведаліся. Весткі разьляцеліся хутка. Паліцыя пачала шукаць бандытаў. Нарэшце даведаліся, што бандытамі ёсьць асаднікі.

**Ш.**

## Ксяндзы-палякі гаспадараць!

(*В. Рачканы, Ляховіцкай вол.. Баранавіцкага пав.*).

У кастрычніку с. г. ў прысутнасьці войта Юрлевіча і пісара Махляра сялянамі вёскі аднагалосна быў абраны новы солтыс Адам Болтуць і яго заступнік Язеп Болтуць.

Але гэтыя асобы моцна не ўпадабаліся Ляховіцкаму ксяндзу-дзекану Кавэцкаму. Першы—як не паляк г. ё. не каталіцкага вызнаньня — „Маляванец“ (секта называецца па першаму правадыру гэтага рэлігійнага руху, Маляванаму, аднадумцу Талстога), другі, як быўшы ў Амэрыцы, лічыцца за атэіста.

У выніку гэтага ксёндз абяцаў, што не дапусьціць зацьвярдзіць вышэй названых асобаў, як вялікіх шкоднікаў каталіцызму. Ня ведаем, як паглядзіць на гэта наш пан стараста ў Баранавічах. Гэта пакажа будучыня.

Цяпер я вам раскажу, чаму асабліва ня любіць ксёндз грамадзяніна Язэпа Болтуця, хоць і каталіцкага вызнаньня. А вось чаму.

Калі леташняга году зімою прыехаў ксёндз да сялян нашае вёскі, дык, сабраўшы ўсіх парахвіян, угаварываў, каб далі сваю згоду на пабудову зруйнаванае вайною капліцы, але ўжо не на могілках, дзе да вайны стаяла старая капліца, і ня гэтакую малую, як тая, а цяпер ксёндз будзе будаваць у самай вёсцы, і на яе камісія адбудовы выдала нешта аж 300 фэсмэтраў дрэва, — пад той час як сяляне і дагэтуль сядзяць у зямлянках, так-жа, каб сяляне абязаліся вывязьці з лесу гэтае дрэва і далі грошы.

Дык Язэп Болтуць першы запратэставаў. Так-жа амаль ня ўсе пратэставалі, але-ж, ведама, пры асабістай прысутнасьці духоўнага айца і падносячы каждаму на падпіс прыгавар ніхто не асьмеліўся не падпісаць.

Вось чаму баімося, што ні Адам Болтуць, а ні Язэп Болтуць ня будуць зацьверджаны на солтыса ў Рачканах.

**Рачканец**

# З Радавае Беларусі.

## Бюджэт Б. С. Р. Р.

Роста публікуе, што бюджэт Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі прадбачыць на 1925 год даходу 34 міліёны рублёў, выдаткаў 28 міліёнаў. Выдаткі на асьвету — 7 міліёнаў. Наагул, на мяйсцовыя патрэбы прызначана звыш 14 міліёнаў, што шмат больш за агульны бюджэт усіх мястовых і земскіх самаўрадаў на тэрыторыі БСРР.

## Цэны ў Менску.

Нам пішуць з Менску, што цэны тамака на спажыўныя прадукты вельмі панізіліся, бо сялянам патрэбны грошы на продналог, і яны вязуць свае прадукты на рынак.

Фунт хлеба (поўбелага) каштуе $5^1/_2$ кап., фунт мяса—16-—17 кап., сьвініна—20 кап., цукар—26 кап., кварта сьмятаны—35—40 кап., дзезяток яек—40 кап., гусі штука ад 1 руб. да 1 р. 50 кап., парасяты бітыя дзесяціфунтовыя — 1 руб., меншыя—па 60—70 кап.

На жаль толькі з заробкамі цяжка.

# Беларусы у Чэхіі.

## Беларускі спэктакль у Юзэфове.

Пастаноўкай „Птушкі Шчасьця“ — Ф. Аляхновіча 18 кастрычніка г. г. ў Юзэфове (табор украінцаў) — распачаў сваю дзеяльнасьць „Драматычны гурток пры Беларускай Радзе ў Празе“.

Перад спэктаклем старшыня гуртка Л. Заяц і адміністратар К. Шышкоўскі злажылі візыты галаве м. Юзэфоў п. Мільлеру, старшыні чэск. прасьветнага т-ва п. Крацыку, вялікаму прыхільніку славянскіх народаў, начальніку гарнізона, а таксама чэскай управе табораў з п. Хроўстам на чале і ўкраінскай табаровай камандзе, са згоды якіх у табаровым тэатры і быў пастаўлены беларускі спэктакль. Усюды прадстаўнікоў драматычнага гуртка спаткаў вельмі прыхільны прыём і было выказана пажаданьне, каб гурток прыяжджаў з беларускімі пастаноўкамі часьцей.

Спэктакль можна лічыць наагул удаўшымся, бо артысты былі добра падгатаваны і йгралі з адпаведным уздоймам. Асабліва на публіку зрабіў вялікае ўражаньне 2 акт пьесы. Былі, канешна, і недачоты. Галоўны з іх — гэта ня сьпетасьць з аркестрам (што часамі яўна адчувалася!), з якім удалося, на жаль, зрабіць толькі адну рэпэтыцыю да спэктаклю, — бо Юзэфоў ляжыць ад Прагі ў 5 гадзінах язды.

Жыду (В. Цыбуля) не саўсім удаліся сьпевы, бо ён быў моцна прастуджаны. Украінскі табаровы аркестр вельмі добра разыграў усе матывы пьесы, якія мастацка аркестраваў п. Баран. Дзеля таго, што Юзэфоў далёка ад Прагі, то з дапамогай гуртку, чым толькі магло, прыйшло табаровае драматычнае т-ва імені Н. Франко з палк. Аркас і сэкрэтар. Яцушко на чале.

Чарговы беларускі спэктакль адбудзецца ў Празе 10 лістапада г. г.

**Л. Ш — ло.**

Прага, 30 кастр. 1924 г.

# Юрыдычныя парады.

**Мацею ў Горадні.** 1) **Запытаньне**: Маю два маргі зямлі ў вёсцы. „Ужонд скарбовы“ налічыў даходу 900 злот. і налажыў падатку 28 зл. Падатак плачу ў гміну, а жыву ў Горадні. Ці ад двух маргоў плаціць падатак ад даходу і ці можа быць такая ацэнка?

**Адказ**: Ці быў гэта падатак гмінны, ці скарбовы? Скарбовы дахадовы падатак бярэцца толькі ад даходу, каторы пераходзе за 1,378 зл.

Можа які іншы, а не ад даходу?

2) **Запытаньне**: Чалавек радзіўся ў Горадні ў 1882 г. і ўвесь час жыў, толькі падчас нямецкай акупацыі быў у Расеі і вярнуўся ў 1921 г. Маю стары расейскі пашпарт, выданы Горадзенскім паліцэйскім упраўленьнем у 1910 г. Бацька радзіўся ў Менску, але жыве ў Горадні з 1870 г. Ці можа быць выселены з Польшчы і ці можа дастаць пашпарт ды абыватэльства?

**Адказ**: Права на абыватэльства і пашпарт мае. Што-ж датычыцца высылкі, дык, хоць уставу такога ня было, але колькі здарэньняў было.

**Сялянам в. Ягловічы.** 3) **Запытаньне**: Зямля наша ў ліку 60 дз. занята Віленскай чыгуначнай Дырэкцыяй „Р.К.Р.“ пяць гадоў таму назад — пад станцыю і склад. Чыгунка за зямлю нічога не заплаціла і арэнды ня плаціць, а калі наша скаціна пройдзе праз шлях, дык прыходзіцца плаціць штраф 50 зл.

Што рабіць?

**Адказ**: Калі ня было загаду а „przymusowem wywłaszczeniu“ гэтае зямлі пад чыгунку і калі вёска мае дакуманты на зямлю, дык трэба судзіцца, іначай нічога ня будзе.

**Падпішчыку № 1270.** 4) **Запытаньне**: Я прыехаў у Польшчу ў 1921 г. і хачу выехаць у Расею. Колькі разоў зьвяртаўся ў староства за пропускам: атрымліваў адмоўны адказ.

Як выехаць?

**Адказ**: Таму, хто мае права на грамадзянства (obywatelstwo), без заграні́чнага пашпарту выехаць у Расею ня можа. Калі можа адгэтуль і выпусьцяць, дык адтуль вернуць. У С. С. Р. Р. можа ўехаць той, хто мае пазваленьне (на візу) радавага паўнамоцніка ў Варшаве.

# Усячына.

## Хто вучыць нашых дзяцей?

„Krynica“ друкуе цікаўны дакумант, каторы паказывае, якім людзям даручана апека над беларускімі дзяцьмі ў нашых вёсках. Няхай будзе чалавек зусім бязграматны, але, калі ён лічыць сябе паляком, — праз гэтае самае ён ужо прызнаецца здольным вучыць дзяцей.

„Do Pana Starosta Dziśnieńskiego powiatu w Głębokiem . . . . . . nauczyciel szkoły pow. w . . . . gm. . . . . pow. Dziśnieńskiego. Podanie. Złożone podanie przez mię w sierpniu 1923 r. w sprawie dowodu osobistego, lecz zostałem powiadomiony przez Urząd gminy . . . . . . że dowód osobisty wydany być nie może z braku obywatela. (?) Uprzejmie proszę Pana Starosty o załączeniu mojch dokumentów i wydanie mi zaświadczenia obywatelstwa polskiego: jednocześnie nadaniam (?) dokumenta: wyciąg z ksiąg stałej ludności i metryka urodzenia“. Padpis.

Аўтар „падання“ пяты год вучыць дзяцей польскай мове і пісаню.

Другі вучыцель гэтак тлумачыць дзяцям розьніцу паміж беларусамі, „вялікарусамі“ (маскоўцамі) і „маларусамі“ (ўкраінцамі): беларусы — гэта людзі з белымі валасамі, зубамі і вачыма; вялікарос — мае вялікі ўзрост; маларос — малога ўзросту.

Можна яшчэ дадаць шмат прыкладаў бязграматнасьці „польскіх“ вучыцялёў, але і гэтага досыць для ацэны вышыні польскай навукі ў пачатковых школах.







Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.